# ЦАРКОЎНЫ  ПАСЛАНЕЦ

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217

Год 15(21) | Сьнежань, 1993 г. | Нр. 2/32(42)





## КАЛЯДНІЯ Й ЗІМОВЫЯ АДПРАВЫ

Парадак Божых Службаў на Каляды й далейшыя сьвяты сёлета складзены, як падаецца ніжэй (усе даты паводле новага стылю):

Наконадні Каляд, ці йнакш на Куцьцю, у чацьвер, 6-га студзеня 1994 г., а 6.оо-й г. вечара-Вялікае Павячэрра з Ранічняй.

У дзень Хрыстовага Нараджэньня, у пятніцу, 7-га студзеня 1994 г. (першы дзень Каляд) - пачатак Сьв. Літургіі а г. 10-й раніцы.

На Новы Год (паводле старога стылю), 14-га студзеня 1994 г. адправы ня будзе.

На Вадохрышча, у сераду, 19-га студзеня - пачатак Сьв. Літургіі а 10.оо-й г. раніцы. Пасьля Сьв. Літургіі ўсьлед будзе Вялікае Асьвячэньне Вады (Ярдань). З гэтага дня пачнецца таксама абход дамоў з Вадохрышчанскай вадою. Просьба да ўсіх парахвіянаў загадзя дамаўляцца на час наведаньня.

На Грамніцы, у аўторак, 15-га лютага, адправы ня будзе. Асьвячэньне сьвечак будзе ў папярэднюю нядзелю, 13-га лютага, пасьля Сьв. Літургіі.

Запускі сёлета выпадаюць у нядзелю, 13-га сакавіка, а Вялікі Пост пачынаецца ў панядзелак, 14-га сакавіка.

3-га красавіка - Крыжапаклонная нядзеля.

На Дабравешчаньне, у чацьвер, 7-га красавіка, адправы ня будзе.

На Вербніцу, у нядзелю, 24-га красавіка - пачатак Сьв. Літургіі, як і ў кожную нядзелю - а 9.оо-й г. раніцы.

Вялікдзень выпадае сёлета 1-га травеня, на чатыры тыдні пазьней за каталіцкі. Парадак адправаў у цярпенным тыдні й на Вялікдзень будзе пададзены ў наступным нумары "Царкоўнага Пасланца".

Калі здарацца зьмены, дык праз іх будзе паведамляцца загадзя з амвону.

КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ АД ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА



БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Хрыстос нарадзіўся, слаўце!

Ізь Сьвятам, што дало пачатак нашаму збаўленьню, з Нараджэньнем Ісуса Хрыста дзіцяткам з Найсьвятое Дзеўны ў Бэтлеэме, вітаю Чэсьці Годнае Духавенства й Вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсіх праваслаўных беларусаў у духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы ймкнуцца, а яшчэ доступу ня маюць.

Жадаю ўсім паводле наказаў Сьвятое Праваслаўнае Царквы й бацькаўскіх звычаяў годна й радасна, у добрым здароўі ды жыцьцёвай памысьнасьці адсьвяткаваць гэтую ўрачыстую пару.

Сьвяткуючы-ж, заклікаю ўсіх Вас, не знайходзіць жыцьцёвае мэты ў матэрыяльнай сытасьці, якою некаторых з Вас здавольвае сьвет, ані губляць надзеі на лепшую будучыню, калі каго даймаюць нястачы й трывогі, але жыць паводле Божых наказаў, заслугоўваючы сабе далейшую ласку ў дабры й хуткую міласьць у нягодзе.

А калі хто ня ўпэўнены, якія-ж гэта Божыя наказы ў першую чаргу трэба шанаваць, хай успомніць, што наш Збавец Ісус Хрыстос сказаў: "любі Твайго Гаспадара Бога ўсім тваім сэрцам і ўсёю тваёю душою, ды ўсім тваім розумам і ўсёю тваёю магатою" /Мрк. 12,30/, ды яшчэ:"любі твайго блізкага, як самога сябе"/Мрк.12,31/.

Чаму-ж гэтыя наказы звыш усіх галаўней?

А вось, калі глянем вакол, калі здумаем і ўзважым зь якою мудрасьцяй, шчодрасьцяй і дбайнасьцяй праз нас Бог стварыў сьвет і, даўшы ключ розуму да ягоных багацьцяў, пусьціў нас на гэны сьвет, мы няхісна пераканаемся, што ўсё гэта пайшло зь Ягонае бязьмежнае да нас Любасьці.

І калі людзкі род, замест удзячнасьці й паслухмянасьці свайму Стварцу за дабрадзействы, супрацівіўся Ягонай Волі ды падаўся блуднымі шляхамі да загубы, ці-ж не зь бязьмежнае Любасьці міласьцівы Бог паслаў на зямлю свайго адзінага Сына, Нараджэньне Якога мы цяпер чэсьцім, каб праз жахныя мукі, што сьцярпеў, Ён вярнуў нас да вечнага жыцьця?!

За гэтую вось вялікую Ягоную Любасьць да нас мы й павінныя, як мага, нашага Стварца горача й шчыра любіць.

Але-ж, ці дагодзім мы Богу, схаваўшы нашую да Яго любасьць у сэрцах, або пахваляючыся ёю адно й усьцяж на словах?

/Працяг на 2-й бач./

## КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ
/Працяг з І-е бач./

Не, адзіны спосаб, якім мы нашую любасьць да Бога можам абярнуць у праўду, гэта праз пашану й памнажэньне таго Дабра на сьвеце, якім Ён нас шчодра абдарыў.

А гэтае дабро не схаванае ў кублах грошай, ані багатых харомах, а ўскрозь блізка вакол нас - гэта нашыя родныя, наш Беларускі народ, зь якога мы пайшлі, наш гожы Край і нашая Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Дык, пачаўшы йзь сьвятога дня Хрыстовага Нараджэньня, аддавайма ўсе яшчэ больш нашых здольнасьцяў і сілаў рупнасьці праз нашых блізкіх, працы на адраджэньне свайго народу ды ўзнаўленьне роднае яму Царквы й гэтым на справе выяўляйма любасьць да нашага Гаспадара ў небе, ды здабывайма надалей Ягоную Ласку!

+ І з я с л а ў
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае
Праваслаўнае Царквы



## З Ж Ы Ц Ь Ц Я Б А П Ц

### БАПЦ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Пачатая ў 1950-м годзе арганізацыяй першае парахвіі ў Брадфордзе дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Англіі хутка пашырылася закладзінамі парахвіяў у Манчэстары, Лёндане, Кэмбрыджы й Бірмінгаме, якімі даездам апекаваўся а. Аляксандар Крыт.

Пасьля выезду ў 1961-м годзе а. Аляксандра Крыта ў ЗША ягоныя цяжкія абавязкі ўзяў на сябе а. Ян Абабурка.

У 1971-м годзе да помачы а. Абабурку далучаецца новаўсьвячаны а. Ян Пякарскі, які абыймае апеку над парахвіямі ў Лёндане, Кэмбрыджы ды ў Вулвэртоне.

Пад адвярным і ўмелым кіраўніцтва абодвых айцоў БАПЦ у Англіі расьце й ўмацоўваецца ўнутрана, ды годна рэпрэзэнтуе сябе перад рэлігійнымі й ахвіцыйнымі дзейнікамі краіны.

У 1984-м годзе Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Англіі з гонарам госьціць у собскім ужо парахвіяльным будынку ў Манчэстары ІІІ-ці Усецаркоўны Сабор, на якім Я.М. Архіепіскап Ізяслаў быў абраны Мітрапалітам і Першагерархам.

Нажаль неўзабаве здароўе а. Яна Пякарскага занепадае, з пастырскімі абавязкамі становіцца ўсё цяжэй і цяжэй спраўляцца, і ўрэшт гэты ахвярны й выдатны сьвятар 12-га студзеня 1993-га году адыходзіць да Божага пасаду.

З гэтай вялікай стратай нашае Царквы ўзноў падвойваюцца абавязкі а. ппрсв. Яна Абабуркa, а падмогі ня прыбывае.

Сяньня а. ппрсв. Абабурка адпраўляе Божыя Службы нядзелямі, двойчы ў месяц у Манчэстары, у Брадфордзе й Нотынгаме раз на месяц у кожным, а ў Вулвэргамптоне прынагодна.

Апрача таго а. ппрсв. Абабурка на колькі дазваляюць сілы й час рэпрэзэнтуе БАПЦ перад іншымі цэрквамі ды рознымі грамадзкімі й урадавымі дзейнікамі ў Англіі, а апошня й дыпляматычнымі прадстаўнікамі Рэспублікі Беларусь у Задзіненым Каралеўстве.

Гэтак 20-га ліпеня г.г. а. ппрсв. Я. Абабурка зрабіў візыт новапрызначанаму консулу Рэспублікі Беларусь у Вялікай Брытаніі сп. Алегу Якавіцкаму, зь якім меў працяглую гутарку на набалелыя ўсім беларусам тэмы.

19-га верасьня г.г. сп. консул Алег Якавіцкі ў вадказ на запросіны наведаў парахвію БАПЦ у Манчэстары, дзе быў прысутным на Сьв. Літургіі ды ўсьлед на зладжанай у ягоны гонар бяседзе, на якой здаволіў цікавасьць удзельнікаў адказамі на пытаньні праз ход дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі.

У першай палове кастрычніка г.г. на запросіны каралеўскага ўраду Англію наведаў міністар замежных справаў Рэспублікі Беларусь сп. Пётра Краўчанка.

З гэтае нагоды 11-га кастрычніка ў Бібліятэцы Імя Фр. Скарыны ў Лёндане адбылася сустрэча міністра П. Краўчанка з краёвым беларускім грамадзтвам і ангельскімі прыяцелямі Беларускае Справы. У ліку прадстаўнікоў ад беларускае эміграцыі госьця вітаў і кіраўнік БАПЦ у Вялікай Брытаніі а. ппрсв. Ян Абабурка.

Пасьля прывітаньняў сп. міністар П. Краўчанка ў зьмястоўнай прамове адкрыта прадставіў сучаснае нутранoе становішча ў Беларусі й ейныя дачыненьні з вонкавым сьветам.

Усьлед за словам міністра за пачастункам госьці й мясцовыя гаспадары дзяліліся думкамі аб становішчы на Бацькаўшчыне й ейнай будучыні.

Гэтак вось, дзякуючы няспыннай працы ахвярнага сьвятара а. ппрсв. Яна Абабурка ды невялікае колькасьці вернікаў Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Англіі выконвае ня толькі ейныя душпастырскія абавязкі, але й уносіць свой уклад у беларускі адраджэнскі рух.

Дай-жа Божа, каб гэткіх працаўнікоў на карысьць БАПЦ, як а. ппрсв. Ян Абабурка й памочныя яму вернікі, у Англіі пабольшала!

— ••• —

### АДКРЫЦЬЦЁ ПАСОЛЬСТВА БЕЛАРУСІ Ў ВАШЫНГТОНЕ

Увечар 20-га красавіка г.г. у сталіцы ЗША г. Вашынгтоне адбылося адкрыцьцё Пасольства Рэспублікі Беларусь, у ягоным собскім будынку на Ну Гэмпшыр Авэню Нр. 1619.

На гэтую важную падзею прыбыў міністар замежных справаў Рэспублікі Беларусь сп. Пётра Краўчанка, які разам з новапрызначаным амбасадарам сп. Сяргеям Мартынавым віталі гасьцей з амэрыканскіх урадавых колаў, на чале з адумысловым амбасадарам да дзяржаваў СНГ сп. Стробам Толбатам, і з дыпляматычнага корпусу ды дзейных у арганізацыйным жыцьці эміграцыі беларусаў.

Ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на ўрачыстасьці быў прысутны Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з др-ам. Расьціславам Гарошкам.

А г. 7.15 вечара перад будынкам Пасольства быў узьняты бел-чырвона-белы дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь, ды ўсьлед у прамовах міністра П. Краўчанка й амбасадара Строба Талбота была адзначаная важнасьць завяршэньня наладу дыпляматычных дачыненьняў паміж ЗША і Беларусяй, ды абрысованыя пэрспэктывы на будучыню, якія гэтыя дачыненьні адчыняюць.

Пасьля ахвіцыйнае часткі адкрыцьця госьці былі запрошаныя на шчодры пачастунак, пры якім адбылося шмат карысных для Беларускае Справы сустрэчаў, знаёмстваў і гутарак.

Шкада толькі, што, відаць, із спадчыны з паднявольных бязбожных часоў, ды бяз увагі на хрысьціянскія традыцыі беларускае дзяржаўнасьці, а таксама й на амэрыканскі звычай, урачыстасьці ладжаныя ўрадавымі дзейнікамі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку й адкрыцьцё Пасольства, абмінаюць пачынаць і канчаць іх зваротам да спагаду з Найвышша.

Таксама й асьвячэньне паводле хрысьціянскага абраду будынку Пасольства дало-б сьветчаньне, што нашая Рэспубліка вярнулася ў рэчышча стваранае на хрысьціянскіх асновах сусьветнае культуры.

## 10-Я ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ СЬВ. ПАМ. МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ

21-га травеня г.г., у дзясятыя ўгодкі сьмерці Сьв. Пам. Мітрапаліта Андрэя, над магілай спачылага Першагерарха БАПЦ, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у суслужбе з В.Г. Архімандрытам Інакентам адправіў паніхіду.

Не зважаючы на працоўны дзень, памаліцца за супакой душы незабыўнага архіпастыра ў Божым Райстве, ды ўшанаваць ягоную памяць, на беларускім праваслаўным магільніку ў Іст Бранзвіку зыйшлася грамадка няхісных вернікаў БАПЦ, што зладна адсьпявала адправу, а пасьля ў гутарках успомніла добрыя справы, якія Сьв. Пам. Мітрапаліт Андрэй зьдзеяў пры жыцьці, ды з жалям згадала зьдзекі, што за гэта ён дазнаў ад ворагаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

## ЦАРКОЎНАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 23-га ТРАВЕНЯ

З нагоды блізкіх адзін за адным дзён, уперш памяці патрона Бруклінскае парахвіі, а пасьля Ўспаміну зьяўленьня Іконы Божае Маці ў Жыравіч, ды ўрэшт 10-х угодкаў сьмерці Сьв.Пам. Мітрапаліта Андрэя, Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы зладзіла ў нядзелю, 23-га травеня, у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прысьвечанае гэтым датам сьвяткаваньне.

Сьв. Літургію, з успамінаньнем Сьв.Пам. спачылага Уладыкі Андрэя, у гэты дзень адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў суслужна з В.Г. Архімандрытам Інакентам. Усьлед за Сьв. Літургіяй быў малебен за Беларускі народ, ягоную Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ды Ейных вернікаў.

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі ахвярнай працай Сястрыцтва быў прыгатаваны сьвяточны стол.

Падчас пачастунку нязвычайна цікавае слова праз жыцьцё, дзейнасьць і творчасьць Сьв. Кірылы Тураўскага сказаў сп. Уладзімер Курыла.

Далей у працягу застольля сп-ня Рыма Маленчанка, якая нядаўна вярнулася ў ЗША пасьля гадавога побыту ў Беларусі, падзялілася з прысутнымі ейнымі назіраньнямі ды ўражаньнямі з сучаснага становішча на нашай Бацькаўшчыне.

Аповяд сп-ні Р. Маленчанка выклікаў нямала да яе пытаньняў, а пасьля працяглыя гутаркі паміж прысутнымі.

Сьвяткаваньне, як пачалося, гэтак і было закончанае супольнай малітвай і архіпастырскім багаславеньнем.

За прыгатаваньне шчодрага сьвяточнага стала належыцца падзяка гаспадыням: сп-ні Аліне Лысюк, Ганьне Войтэнка й іншым.

## УДЗЕЛ У ПАХОВІНАХ ПАТРЫЯРХА КІЯЎСКАГА Й УСЯЕ УКРАІНЫ МСЬЦІСЛАВА І-ГА

Дамавіна зь целам памерлага 11-га чырвеня г. г. у Канадзе Патрыярха Кіяўскага й Усяе Украіны Мсьціслава І-га была прывезеная ў Украінскі Праваслаўны Цэнтр у ЗША, што ў Баўнд Брук, Н.Дж. у панядзелак, 12-га чырвеня, і сустрэтая ў варотах украінскім духавенствам і вернікамі, ды з чэсьцяй унесеная ў Царкву-Памятнік Сьв. Андрэя Першпазванага, дзе адразу шматлікія украінскія япіскапы з самое Украіны ды з эміграцыі на чале зь Мітрапалітам УПЦ у ЗША Канстантынам, ды з запрошаным Першагерархам БАПЦ Я.М. Мітрапалітам Ізяславам адправілі паніхіду.

Пасьля гэтага аж да паховінаў пры патрыяршай дамавіне паміж адправамі чыталася Сьв. Пісьмо ды штогадзіны служыліся ліціі.

Пахавальнае адпяваньне адбывалася праз два вечары, у панядзелак і аўторак, з удзелам каля 100 сьвятароў і герархаў.

У аўторак раніцай, 22-га чырвеня, адправу Сьв. Літургіі ачоліў Я.М. Мітрапаліт БАПЦ Ізяслаў у суслужбе з архіяпіскапам УПЦ Раманам і япіскапамі Паісіям ды Янам, пры малітоўным удзеле ўсіх іншых украінскіх герархаў і шматлікіх сьвятароў.

У дзень паховінаў, у сераду рана, 23-га чырвеня Сьв. Літургію ачолілі Іх Міласьці Мітрапаліт УПЦ у ЗША Канстантын ды Першагерарх БАПЦ Мітрапаліт Ізяслаў у суслужбе з архіяпіскапамі Антоніям, Раманам і Пятром, ды япіскапамі Паісіям і Янам, а таксама з удзелам сьвятарства з Украіны й украінскае дыяспары.

Пасьля Сьв. Літургіі дамавіна зь целам Сьв. Пам. Патрыярха Мсьціслава была вынесеная наўперад сьвятыні дзеля разьвітаньня зь ім колькітысячнае грамады вернікаў, што не змаглі зьмясьціцца ў царкоўным будынку.

Пасьля заканчэньня разьвітаньняў ліціёю, крыжны ход з дамавінай нябожчыка абыйшоў тройчы вакол царквы ды ўрэшт спыніўся ля ўваходу ў пахавальны склеп пад царкоўным будынкам, дзе й былі пахаваныя зямныя застанкі вялікага сьвяціцеля Украінскага народу да іхняга павароту на родную зямлю.

Пасьля паховінаў у залі Украінскага Праваслаўнага Культурнага Цэнтру быў зладжаны ўспамінкавы стол, падчас якога прагучэлі прысьвечаныя памяці спачылага выказваньні ад герархаў, вернікаў ды прадстаўніка ўраду Украінскае Рэспублікі.

Зьезд шматлікіх украінскіх герархаў і сьвятарства ўсіх юрысдыкцыяў, як з краю, гэтак і з дыяспары, даў магчымасьць Першагерарху БАПЦ Я.М. Мітрапаліту Ізяславу ня толькі з належнай годнасьцяй аддаць пашану памяці заслужанага й перад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою выдатнага архіпастыра, але й умацаваць і пашырыць дачыненьні з Украінскімі Цэрквамі, праз узнаўленьне даўніх і завязаньне новых знаёмстваў.

## УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ РЭСПУБЛІКІ

Увечары 27-га ліпеня г.г., у трэйція ўгодкі прыйма Вярхоўным Саветам пастановы аб сувэрэннасьці Беларусі, Прадстаўніцтва Рэспублікі ў Арганізацыі Задзіненых Нацыяў у Нью Ёрку ладзіла прысьвечанае гэтай падзеі ўрачыстае прыйняцьце.

Пры ўваходзе ў залю ў будынку Прадстаўніцтва гасьцей з дыпляматычнага корпусу, амэрыканскіх урадавых і прадпрымальніцкіх колаў, ды дзейных у арганізацыйным жыцьці эміграцыі беларусаў, віталі й прыймалі ад іх прынагодныя віншаваньні Амбасадар Рэспублікі Беларусь сп. Генадзь Бураўкін із ягонай спадарыняй, ды заступнік амбасадара сп. Аляксандар Васільеў з жонкай.

Ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на ўрачыстасьці былі прысутныя Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў і сябра Кансысторыі сп. Барыс Данілюк.

У праграме вечару ня было афіцыйнае, ані мастацкае часткі й госьці праводзілі час частуючыся багатымі закускамі й шчодрым пітвом, ды размаўляючы з даўнімі, а таксама абменьваючыся думкамі з новасустрэтымі знаёмымі.

У гэтай цёплай атмасфэры Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў меў прыемнасьць пазнаёміцца з прадстаўніцай Рэспублікі Казахстан у Арганізацыі Задзіненых Нацыяў сп-няй Акмарал Х. Арыстабекавай, зь якою займеў працяглую гутарку аб становішчы беларускае меншасьці ў незалежнай Казахскай дзяржаве. Сп-ня Амбасадар Арыстабекава запэўніла Ўладыку аб прыхільнасьці ўраду Рэспублікі Казахстан да эміграцыі народу, які з Казахскім народам дазнаваў аднолькавы прыгнёт, ды зь якім побач ідзе да лепшае будучыні ў свабодзе.

на сустрэчу з сваім беларускім архіпастырам не зьявіліся, даючы гэтым прычыну да дзіву, у чым яны бачаць карысьць нацыянальнай справе?

6-га сьнежня г.г. Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў і В.Г. Архімандрыт Інакент, удзячныя Богу й духаўнікам, а таксама вернікам БАПЦ ў Аўстраліі за радасныя й гасьцінныя сустрэчы, ды ўзрадаваныя духовай сілай і вытрываласьцяй гаспадароў, вярнуліся ў ЗША.

## СУСТРЭЧА З ПРАТ. Ю. ЛАТУШКАМ ЗЬ МЕНСКУ

У першай палове лістапада г.г. некаторыя беларускія праваслаўныя парахвіі, што ў грэцкай юрысдыкцыі, наведаў а. Юры Латушка, пратаярэй Сьв. Пятрапаўлаўскага Катэдральнага Сабору ў Менску, выкладчык Жыраўскае Духоўнае Сэмінарыі ды апякун Беларускага Праваслаўнага Брацтва пры Экзархаце Расейскае Праваслаўнае Царквы ў Беларусі.

У суботу, 13-га лістапада, пасьля вячорні, якую а. Ю. Латушка адправіў у Сьв. Еўфрасіняўскай царкве ў Саўт Рывэры, Н.Дж., дзякуючы ветлівасьці госьця, зь ім дал кожыцую гутарку займеў каардынатар справаў Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк.

У шчырай і праніклай дбайнасьцяй за цяперашні стан ды будучыню Праваслаўнае Царквы ў Беларусі гутарцы размоўцы пазнаёмілі адзін аднаго, на колькі дазволіў час, як зь дзейнасьцяй Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі, гэтак і з жыцьцём БАПЦ сярод эміграцыі, ды іхнімі паглядамі ў гэтых справах.

На заканчэньне сустрэчы а. прат. Юры Латушка й сп. Б. Данілюк абмяняліся беларускімі царкоўнымі выданьнямі ды дамовіліся ўтрымоўваць, паводле магчымасьці, сталую лучнасьць у будучыні.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРАВАСЛАЎНЫЯ КАЛЯНДАРЫ БАПЦ

Сёлета, як і доўгім лікам папярэдніх год, дзякуючы ахвярнай працы а. ппрсв. Аляксандра Кулакоўскага, у Мэльбурне, што ў Аўстраліі, выдадзены Беларускі Праваслаўны Каляндар- кніжка на 1994-ты год.

У каляндары апрача патрэбных кожнаму праваслаўнаму беларусу каляндарных вестак, зьмешчаныя артыкулы й матэрыялы на рэлігійныя й беларускія патрыятычныя ды агульна цікавыя тэмы.

Апрача каляндара-кніжкі, дзякуючы шчодрасьці пахавальнай установы М.А. Малішэўскага йз Саўт Рывэру, Н.Дж., якая ўжо даўно займаецца ладжаньнем пахаваньняў на беларускіх праваслаўных могілках у Іст Бранзвіку, сёлета ўзноў надрукаваны й насьценны Беларускі Праваслаўны Каляндар Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Абодвы каляндары можна прыдбаць пры наведаньні Божых Службаў у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й іншых сьвятынях БАПЦ.

Цана настольнага каляндара-кніжкі - 5.оо д., а насьценнага - 2.оо дал.

## ПАПРАЎКА

У вялікодным нумары "Царкоўнага Пасланца" Нр. 1/31(41) за 1993 г. здарыўся прыкры друкарскі недагляд:

У артыкуле прысьвечаным успаміну Сьв.Пам. Зьмітра Курыловіча памылкова пададзены дзень ягонага нараджэньня, як 13-га лютага 1991-га году, замест запраўдные даты 13-га лютага 1921 г.

За гэтую няпрыемнасьць складальнік "Царкоўнага Пасланца" шчыра просіць выбачэньня ўдавы Сьв. Пам. Зьмітра Курыловіча сп-ні Тацьцяны, абодвых сыноў нябожчыка зь сем'ямі ды ўсіх чытачоў.

## СЬВЕТЛАЕ ПАМЯЦІ АЛЕНЫ ЛОСІК

31-га кастрычніка г.г.г у Іст Бранзвіку, Н. Дж., на 78-м годзе жыцьця, раптоўна занядужаўшы, адыйшла ў лепшы сьвет сьв. пам. Алена Лосік.

Нябожчыца нарадзілася 8-га сьнежня 1914 г. у сям'і Юстына й Паўліны Пісарчыкаў у в. Зані, што каля Паставаў на Віленшчыне.

Ейнае дзяцінства, школьныя гады й маладосьць прайшлі ў родным сяле ў нялёгкіх тады ўмовах сялянскага жыцьця пад польскай акупацыяй.

Вясной 1939-га году яна выйшла замуж за Ўладзімера Лосіка й, здавалася, магла пачаць спакойнае сямейнае жыцьцё з гаспадарным і зарадным мужам.

Нажаль сусьветныя падзеі абярнуліся так, што на зьмену польскім акупантам, прыйшлі савецкія народагубцы й у кожную хату ў нашым Краі зазірнула трывога за фізычнае йснаваньне.

Гэтая трывога ўзмацнела яшчэ больш, калі ў маладое пары ў 1940 годзе нарадзілася першая дачушка - Аліна, ды неспакой за ейную й сваю будучыню на ўлёгся і ў жахлівую пару нямецка-савецкае вайны, што заліла морам крыві й сьлёз нашую зямлю.

Таму ў 1944-м годзе, ратуючыся ад паўторнае савецкае акупацыі, сям'я Лосікаў падаецца на захад, дзе ў цяжкіх умовах даводзіцца працаваць ажно жа капітуляцыі Нямеччыны.

Пасьля вайны, чакаючы магчымасьці выяхаць у свабодны сьвет, спадарству Лосікам давялося некалькі год жыць у лягерох для ўцекачоў у Нямеччыне, дзе ў 1946- годзе ў іх нарадзіўся сын Віктар, а ў 1949-м дачка Ала.

Калі ў 1948-м годзе адчыніўся беларускі лягер у Розэнгайме, што ў Баварыі, дзе стварыўся горан узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, абое спадарства Лосікі, якія апынуліся там, сталі гарачымі прыхільнікамі й памочнікамі гэтых гістарычных падзеяў.

У 1950-м годзе сям'і Лосікаў пашчасьціла пераехаць у Амэрыку, дзе яны аселі сьпярша ў Саўт Рывэры, а пасьля ў Іст Бранзвіку.

Пераезд гэны аднак адно адчыніў дзьверы ў лепшую будучыню, але здабываць яе даводзілася цяжкой працай, і ня толькі бацьку сям'і, але й маці, гадуючы разам з гэтым і невялікіх яшчэ дзяцей.

Усё-ж духовая падпора ўрослай змалку ў душу пабожнасьці, ды прыродная беларусам працавітасьць, пасьля пачатных цяжкасьцяў, з ходам часу далі змогу сям'і сп-ва Лосікаў асягнуць нармальны амэрыканскі жыцьцёвы ўзровень, ды, як кажацца, вывясьці дзяцей у людзі.

Аднак жыцьцёвыя мэты сьв. пам. сп-ня Алена Лосік зь ейным мужам бачылі ня толькі ў матэрыяльным здаволеньні, але й у працы на карысьць гаротнага Беларускага народу, зь якога пайшлі, як у грамадзкіх арганізацыях, гэтак і з асаблівай адданасьцяй у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

І калі гэтая родная Царква ўздрыгнула ад варожага подступу й мноства падалося па звабным шляху адступніцтва ад кананічных правілаў, сям'я Лосікаў, не зважаючы на выніклыя з гэтага асабістыя прыкрасьці й крыўды ад ранейшых, здавалася, прыяцеляў, а таксама розныя, зьвязаныя з гэтым цяжкасьці, засталася вернай праўнаму кіраўніцтву БАПЦ.

Ды таксама, калі з гэтае прычыны стала немагчымым наведваньне блізкае царквы ў Гайлэнд Парку, да прыдбаньня якое яны гэтак шмат прычыніліся, сп-ня Лосік з мужам і сям'ёю, бяз хістаньня й сумневаў, пачалі рэгулярна даязджаць у далёкі ад іх Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, на карысьць якога таксама нямала патрапілі зрабіць.

Таму й разьвітацца зь сьв.пам. Аленай Лосік ды аддаць ёй апошнюю пашану, гэтак, як і памерламу на паўтара года раней ейнаму мужу, сп. Уладзімеру, зыйшлася немалая грамада прыяцеляў і знаёмых, сьпярша ў аўторак вечарам, 2-га лістапада г.г., на паніхіду ў пахавальнай установе Малішэўскага ў Саўт Рывэры, Н.Дж., а на наступны дзень на Сьв. Літургію й адпяваньне ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, якія адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Урачыстае пахаваньне адбылося на беларускіх праваслаўных могілках у Іст Бранзвіку. Пры хаўтурным стале, што быў зладжаны у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры, слова з ушанаваньнем памяці памерлай ды спагадам ейнай сям'і сказаў сп. Пётра Манькоўскі.

У нядзелю, 12-га сьнежня г.г., пасьля 40-ка дзён ад сьмерці сьв.пам. Алены Лосік, сьледам за Сьв. Літургіяй паніхіду за супакой душы нябожчыцы адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, а на прыгатаваным сям'ёю ў парахвіяльнай залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ўспамінным стале словы пашаны памерлай і жалю зь ейнае страты выказалі сп.сп. Барыс Данілюк і Ўладзімер Курыла.

Памерлая пакінула ў жальбе сына зь нявесткай, дзьве дачкі зь зяцямі ды некалькі ўнукаў, якім Кансысторыя БАПЦ і Парахвіяльная Рада ў Брукліне выказваюць шчырыя спачуваньні.

## ПРЫВІТАНЬНІ Й НАЙЛЕПШЫЯ ПАЖАДАНЬНІ

5-га кастрычніка г.г. збылося 30 гадоў сужэнства сп-ва Аўгена й Аліны Лысюкоў, ахвярных працаўнікоў на беларускай нацыянальнай ніве, абоіх сьпярша ў Згуртаваньні Беларускае Моладзі ў ЗША, а ў сталым веку ў жыцьці парахвіяў у Гайлэнд Парку й Брукліне, ды ў выпадку сп-ра Лысюка таксама ў Радзе й Кансысторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

З гэтае нагоды 9-га кастрычніка г.г. у залі рэстарану Рыя Мар у Саўт Рывэры, Н.Дж., зыйшліся сваякі й прыяцелі юбіляраў на зладжанае сынам і дзьвюма дачкамі сп-ва Лысюкоў у чэсьць бацькоў застольле.

У створаным агульнай пашанай да сп-ва Лысюкоў і добрымі ім пажаданьнямі радасным настроі, пры багатых сталах і скочнай музыцы вечар прайшоў для ўсіх прысутных вельмі прыемна.

Рада й Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне далучаюць да раней атрыманых сп-вам Лысюкамі добрых пажаданьняў таксама й свае вітаньні, ды прасьбы Божае ім Ласкі з нагоды 30-х угодкаў сужэнства.

— • • • —

21-га лістапада г.г. збылося таксама 50 год сужэнства сп-ва Барыса й Марыі Данілюкоў, трывалых працаўнікоў на беларускай нацыянальнай ніве яшчэ з Бацькаўшчыны, а пасьля й на эміграцыі, ды асабліва ў царкоўным жыцьці пачаўшы зь Нямеччыны, праз звыш 40 год у парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, а ў выпадку сп-ра Барыса таксама й у Кансысторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Залатыя ўгодкі іхняга сужэнства юбіляры адзначылі ў сямейным коле, акружаныя любасьцяй і пашанай дзяцей, унукаў і праўнукаў.

Рада й Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне далучаюць да ўжо выказаных сям'ёю й прыяцелямі сп-ву Данілюкам пажаданьняў таксама й свае вітаньні, ды прасьбы Божага ім прыняньня з нагоды 50-х угодкаў сужэнства.

## ПАДЗЯКА

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне выказвае шчырую падзяку за атрыманыя на выданьне "Царкоўнага Пасланца" ахвяры ад наступных асобаў:

Ананімна – 50.оо дал., сп. Б.Даніловіч – 5.оо дал., сп-ва. Б. і М. Данілюкі – 27.оо д., сп. Ю. Касьцюкевіч – 4.оо дал., сп-ва. В. і Г. Лосік – 10.оо дал., а.прат. М. Таўпека – 5.оо дал., Хрысьціянін – 20.оо дал., сп-ва. П. і С. Швэды – 5.оо дал.

Спадзяемся, што ў будучыні іхнім сьледам пойдзе яшчэ больш чытачоў "Царкоўнага Пасланца".

Дарагія праз Хрыста Сёстры й Браты!

З усьцешанымі ўспамінам аб зыйсьці на зямлю ў кволым дзіцячым целе нашага Збаўца сэрцамі, вітаем Вас із сьвятам Хрыстовага Нараджэньня й жадаем дазнаць у ім радасьці з Божае а-[illegible] ўзнагароду з Найвышша за [illegible] добрыя ўчынкі новае Божае лета.

А каб быць Вам больш надзейнымі на Божае прыняньне, як на ўслаўным Ягоным сьвяце, гэтак і ў новым, што ўсьлед настане, годзе, заклікаем Вас зазірнуць у Вашыя сэрцы й спытаць Вашага сумленьня, ці ўсе добрыя ўчынкі, што маглі зрабіць, Вы ў справу абярнулі, ды, ці ў кожнай ведамай патрэбе, калі стаць было на тое, Вы з памогай пасьпяшалі.

Нам здаецца, што на гэткі зварот да собскага сумленьня, яно ці-воднаму адкажа, што якраз вось Той Крыніцы, што ўсе ласкі пасылае, ён не парупеў, каб аддзякаваць годнай мерай, або й крыхай хоць вярнуць за ўсе шчодрасьці ня здумаў.

Знайшоўшы ў душы гэткі прыпамін даўгу перад Дарцом усіх людзкіх багацьцяў, хай-жа ніхто не адкладае сплаты на пасьля, бо вартасьць хуткай дапамогі ў патрэбе вышэй за позьнюю.

Гэткай вось неадкладнай дапамогі заслугоўвае й патрабуе Катэдральны Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, які ўжо звыш 40 год дае Божую навуку й духовую апеку праваслаўным беларусам у Амэрыцы, бароніць ідэю беларускае дзяржаўнасьці перад сьветам і змагаецца супраць пастаўленае акупацыйнай сілаю на нашай Бацькаўшчыне чужынскае царквы за ўзнаўленьне там роднае нашаму Народу Праваслаўнае Царквы.

Кожная ахвяра на гэтую Сьвятыню, што, як скала сярод усьпененага мора, выстаяла нямала бураў і ў нястачах далей выконвае свае абавязкі, ёсьць якраз зваротам часткі даўгу нашаму Стварцу за дабрадзействы, якімі Ён кожнага з нас абдарыў і, калі бачыць за іх удзячнасьць, яшчэ шчадрэй надзяляе.

Дык, хай-жа й Вы, Вашай шчодрай ахвярай, здабудзеце заслугу на Ягоную ўзнагароду!

Парахвіяльная Рада
Катэдральнага Сабору
Сьв. Кірылы Тураўскага

